№7(190)

# ПАХОДНЯ

*Грамадска-палітычная газета*

Красавік 2015 г.

## КАЛОНКА НАВІН

### У краіне

**В феврале реальный размер пенсий снизился на 1,4%.**

Пенсионные выплаты в Беларуси за февраль 2015 года снизились в реальном выражении на 1,4% по сравнению с предыдущим месяцем, сообщает Национальный статистический комитет.

**ВВП Беларуси продолжает падение.**

Валовой внутренний продукт Беларуси в феврале продолжил снижение и за январь-февраль упал на 0,6% по сравнению с аналогичным периодом прошлого года. В денежном выражении ВВП составил 122 трлн. рублей, сообщает Национальный статистические комитет РБ

В январе ВВП снизился на 0,4%, передает АФН.

Выпуск промпродукции составил Br110,9 трлн, что на 5,8% меньше, чем за аналогичный период 2014 года.

Производство сельскохозяйственной продукции увеличилось на 5,4% и составило Br12,0 трлн.

### У Прыдняпроўі

**Более 8 тысяч человек в Могилевской области в феврале работали в режиме вынужденной неполной занятости.**

В феврале текущего года в организациях Могилевской области было занято 352,8 тыс. человек, что на 3,4% меньше, чем годом ранее. 8,2 тыс. работников организаций работали в режиме вынужденной неполной занятости. 16,9 тыс. работников организаций находились в целодневном (целосменном) простое.

### У раёне

**Намінальная налічаная сярэднемесячная заработная плата працаўнікоў Бялыніцкага раёна** ў лютым 2015 года склала 4 922 707 рублёў. У параўнанні з лютым 2014 года рэальны заробак працаўнікоў Бялыніччыны зменшыўся на 3,4%, паведамляюць магілёўскія статыстыкі.

## ЯК ІНВЕСТЫЦЫІ ЗАКАПВАЮЦЦА Ў ЗЯМЛЮ

***20 сакавіка ў час правядзення калегіі Камітэту дзяржкантролю Беларусі яго старшыня Леанід Анфімаў заявіў, што ў 2015 годзе ведамства займецца праверкай эфектыўнасці ўкладання сродкаў у аграгарадкі.***

***“Да канца бягучага году неабходна правесці кантрольна-аналітычныя мерапрыемствы і ацаніць, наколькі эфектыўна выкарыстаны ўкладзеныя сродкі і ці адпавядаюць пабудаваныя аграгарадкі тым мэтам і задачам, дзеля якіх яны ствараліся, чым жывуць і ў якіх умовах працуюць людзі”, — паставіў задачу сваім падначаленым старшыня КДК.***



У адрозненні ад свайго папярэдніка Якабсона, які спрабаваў разабрацца ў сістэме жыллёва-камунальнай гаспадаркі, ды так і сыйшоў у адстаўку неразабраўшыся, Анфімаву дастаўся больш складаны накірунак працы — навесці, нарэшце, парадак у выкарыстанні бюджэтных сродкаў, якія выдзяляюцца на рэалізацыю Дзяржаўнай праграмы адраджэння і развіцця сяла, іншых праграм па аграрнаму сектару, з якім не справіўся нават былы прэм'ер-міністр Мясніковіч, выконваючы даручэнне кіраўніка дзяржавы.

А разбірацца ёсць шмат у чым. Бо як бы не прыпадносіла беларуская прапагандыстская машына “пасяховасць” рэалізацыі разнастайных праграм, скіраваных на развіццё сельскай гаспадаркі, шыла, як кажуць, у мяшку не схаваеш. Рэаліі жыцця паказваюць, як непрафесійна, бязглузда выконваюцца гэтыя праграмы, як злачынна асвойваюцца фінансавыя сродкі, выдзеляемыя з дзяржаўнага бюджэту.

Ужо, нават, рэдакцыя газеты “СБ Беларусь сегодня” вымушана была звярнуць увагу на дадзеную праблему. У нумары ад 09.12.2014 г. пасля шматлікіх зваротаў грамадзян у рэдакцыю і розныя іншыя інстанцыі, нарэшце, з'явіўся матэрыял аб новых аварыйных “прэзідэнцкіх” дамах у аграгарадках Капыльскага, Лагойскага,Слуцкага раёнаў Мінскай вобласці. Дзесяткі, сотні новых домікаў, пабудаваных для працаўнікоў сяла за кошт дзяржаўнага бюджэту па праграме развіцця сяла пачалі развальвацца адразу пасля здачы іх у эксплуатацыю.

Меры, прымаемыя мясцовымі ўладамі па рамонту дамоў, мільярды рублёў фінансавых сродкаў, выдзеляемыя на гэта, належнага эфекту

*(Заканчэнне на стар. 2)*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ЯК ІНВЕСТЫЦЫІ ЗАКАПВАЮЦЦА Ў ЗЯМЛЮ

*(Заканч. Пачатак на стар. 1)*

не далі, жыць у гэтых дамах немагчыма. І, як звычайна, вінаватых зноўку няма. Па некаторых фактах нават былі ўзбуджаны крымінальныя справы, але пасля доўгіх разбіральніцтваў і экспертыз усе яны былі прыпынены.

Падобных фактаў хапае не толькі ў гэтых трох раёнах Міншчыны. У кожнай вобласці краіны можна знайсці сотні такіх прыкладаў, калі “прэзідэнцкія” домікі па розных прычынах гадамі застаюцца незаселенымі, а многія з іх ужо знесены, бо не адпавядаюць умовам для пражывання.

Па словах Анфімава, жадае ён разабрацца і з тым, як рэалізуецца Рэспубліканская праграма развіцця малочнай галіны на 2010-2015 гады, а дакладней — у эфектыўнасці рэканструкцыі малочна-таварных ферм.

Пра якую эфектыўнасць, спадар Анфімаў, тут можа ісці гаворка, калі на новых жывёлагадоўчых комплексах і рэканструяваных фермах сабекошт аднаго скатамесца дасягае 10 тысяч долараў і перавышае еўрапейскія стандарты да трох раз…

А як усё прыгожа пачыналася на словах.

…27 мая 2005 года, у час правядзення рэспубліканскага семінару па рэалізацыі Дзяржаўнай праграмы адраджэння і развіцця сяла на 2005-2010 гады, які адбыўся на Брэстчыне, Аляксандр Лукашэнка заявіў, што ў цэнтры ўвагі павінен знаходзіцца чалавек.

“Мы не закапываем деньги в землю, как кричат наши оппозиционеры, а инвестируем капитал в важнейшую сферу народного хозяйства”, — падкрэсліў ён у час свайго выступа перад удзельнікамі семінару.

“Сельский дом не должен уступать по комфортности городскому, однако необходимо, чтобы он учитывал особенности деревенского уклада жизни, крестьянский менталитет”, — выказаў Лукашэнка сваё меркаванне.

Згодна ўказа № 150 ад 25.03.2005 года Дзяржаўная праграма адраджэння і развіцця сяла на 2005-2010 гады прадугледжвала фармаванне 1481 аграгарадка на базе цэнтраў сельсаветаў і сельгаспрадпрыемстваў з паляпшэннем жыллёвых умоваў для сельскага насельніцтва і развіццём сацыяльнай інфраструктуры населеных пунктаў.




Агульная сума расходаў на фінансаванне праграмы складала 69,8 трлн. рублёў (у коштах 2005 года).

Асноўнымі мэтамі Праграмы з’яўлялася адраджэнне і развіццё сяла на падставе ўмацавання аграрнай эканомікі, павышэння прыбыткаў сельскага насельніцтва, узроўню сацыяльна-бытавога і інжынернага ўпарадкавання сельскіх населеных пунктаў, захавання і аздараўлення экалогіі ў іх, рацыянальнага выкарыстання дзяржаўных і іншых інвестыцый.

У агульным плане, як выказаўся Лукашэнка 22 кастрычніка 2013 года, на той момант, за дзве з паловай пяцігодкі ў аграрны сектар было ўкладзена больш чым 50 міліярдаў даляраў.

Нягледзечы на такія фінансавыя ўліванні, беларускім уладам так і не ўдалося надаць неабходнай прывабнасці сельскаму вобразу жыцця і працы, забяспечыць устойлівае сацыяльна-эканамічнае развіццё сельскіх тэрыторый, дасягнуць акрэсленых сацыяльных стандартаў на сяле.

Аб якіх сацыяльных стандартах можа ісці гаворка, калі большыня жылых дамоў на сяле да гэтай пары застаецца без вадаправода і каналізацыі, а ад малейшага подыху ветра выходзяць са строю лініі электраперадачы, і вёскі гадзінамі застаюцца без электрычнасці? Аб якіх сацыяльных стандартах можна казаць, калі ў вёсках кожны год зачыняюцца дзесяткі школ, установаў культуры, магазінаў, скарачаюцца рэгулярныя аўтобусныя злучэнні аграгарадкоў з іншымі населенымі пунктамі, раённымі і абласнымі цэнтрамі?

І які дурань прыдумаў для сялянаў сацыяльны стандарт — атрыманне заробкаў і сацыяльных выплатаў праз банкаматы, або ашчадныя касы па электронных картках, калі гэтыя аддзяленні ў вёсках адсутнічаюць, або працуюць адзін няпоўны дзень на тыдзень, а банкаматаў дык і ніколі не было? І сялянам да банкаматаў прыходзіцца дабірацца ў раённыя або абласныя цэнтры за дзесяткі кіламетраў.

Ці ўдасца спадару Анфімаву да канца 2015 года разабрацца ў пытаннях эфектыўнасці выкарыстання фінансавых сродкаў на фармаванне сацыяльнай і вытворчай сферы аграгарадкоў?

Упэўнены — не, не ўдасца. Бо каб разабрацца, то трэба прыцягваць да адказнасці ўсіх удзельнікаў таго майскага 2005 г. семінару, што праходзіў на Брэстчыне...

Самым эфектыўным спосабам выпраўлення сітуацыі ў такіх умовах, было б рашэнне на самым высокім узроўні па перасяленні ўдзельнікаў таго семінару з утульных гарадскіх кватэр у тыя новыя аварыйныя “прэзідэнцкія” дамы, каб яны самі на сабе адчулі “клопат” аб сялянах.

А ў каго вялікія сем’і, то можна і па некалькі домікаў выдзеліць. Усім хопіць, хай жывуць.

***Намеснік старшыні Партыі БНФ Рыгор Кастусёў***

## У МАГІЛЁВЕ НЕ ДАЗВОЛІЛІ ПРАВЕСЦІ ПІКЕТ У ПАДТРЫМКУ ЛУКАШЭНКІ

***Група грамадзян збіраліся падтрымаць кіраўніка дзяржавы ў прыняцці закона аб дармаедах ды вылучыць яго на Нобелеўскую прэмію міру, паведамляе інтэрнэт-сайт Праваабарончага цэнтру "Вясна".***




У Магілёве ўлады не дазволілі правесці пікет у падтрымку Аляксандра Лукашэнкі. Пра гэта паведаміў грамадскі актывіст Аляксей Паўлоўскі, які адзначыў, што ініцыятарамі пікета выступілі 44 магілёўцы.

Падпісанты мелі намер праз масавае мерапрыемства выказаць падтрымку ў прыняцці закона аб дармаедах, "падтрымаць вылучэнне Аляксандра Лукашэнкі на пяты тэрмін", а таксама вылучыць кіраўніка Беларусі на Нобелеўскую прэмію міру, за пасярэдніцтва ў спыненні агню ва Украіне.

Пікет, у выніку дазволу, мусіў адбыцца на плошчы Леніна ў цэнтры горада, аднак чыноўнікі спасылаліся на тое, што гарвыканкамам для правядзення падобных мерапрыемстваў вызначыў пляцоўку на стадыёне "Хімік", які размяшчаецца на ўскрайку Магілёва.

Усе выдаткі на арганізацыю мерапрыемства, калі б яно было дазволена, планаваў узяць на сябе незалежны прафсаюз Радыёэлектроннай прамысловасці. Сам пікет мусіў адбыцца 1 красавіка з 12-00 да 13-00 на плошчы Леніна ў Магілёве.

## МАГІЛЁЎСКІЯ СЯБРЫ ГА "БАЖ" ВЫЛУЧЫЛІ ДЭЛЕГАТАЎ НА З'ЕЗД АРГАНІЗАЦЫІ

У горадзе Магілёве 20 сакавіка адбыўся рэгіянальны сход мясцовых сяброў Грамадскага аб'яднання "Беларуская асацыяцыя журналістаў".

Мерапрыемства прайшло ў Грамадскім цэнтры "Кола", усяго ў ім прыняло ўдзел больш за трыццаць сяброў ГА "БАЖ" і запрошаных гасцей з розных рэгіёнаў Магілёўшчыны. У госці да магілёўскіх журналістаў таксама завіталі і сябры праўлення ГА "БАЖ" з Мінска – намесніца старшыні арганізацыі Аліна Суравец і вядомая беларуская журналістка Тацццяна Мельнічук.

Прысутныя на сходзе сябры ГА "БАЖ" актыўна і зацікаўлена абмеркавалі дзейнасць арганізацыі ў мінулым годзе, выказалі свае прапановы наконт таго, якім накірункам працы ГА "БАЖ" павінна надаваць больш увагі ў бліжэйшы перыяд. Аліна Суравец і Таццяна Мельнічук адказалі на шматлікія пытанні журналістаў Магілёўшчыны.

На сходзе было прынята рашэнне стварыць у асяродку магілёўскіх БАЖаўцаў адмысловую камісію па этыцы, у склад якой было вылучана і абрана тры мясцовых журналіста – Уладзімір Лапцэвіч, Мікалай Яцкоў і Аляксандр Буракоў.

Таксама магілёўскія БАЖаўцы разгледзелі заявы на ўступ у ГА "БАЖ" і прынялі рашэнне падтрымаць перад праўленнем арганізацыі ўваход у яе склад у якасці новых сяброў Наталлі Плоткінай, Максіма Алямоўскага і Вячаслава Сікоры.

БАЖаўцы Магілёўшчыны на сходзе вылучылі і абралі дэлегатаў на з'езд ГА "БАЖ", які адбудзецца 24 красавіка. Дэлегатамі былі абраныя магілёўскія журналісты Уладзімір Лапцэвіч і Дзяніс Васількоў, рэдактар горацкай газеты "Узгорак" Галіна Будная і журналіст з Бялыніцкага раёна Барыс Вырвіч.

## БЕЛЫНИЧСКИЙ ЛИЦЕЙ ПРОВЕРИЛИ

***Дооценку на сумму более 2,5 млрд.рублей провели сотрудники КГК Могилевской области при проверке Белыничского профлицея №17.***

Законность и эффективность распоряжения государственными средствами и имуществом проверили специалисты Комитета госконтроля Могилевской области в Белыничском профлицее №17. Ряд нарушений законодательства выявлено при проведении государственных закупок, сдаче имущества в аренду, учете основных средств и нематериальных активов (произведены их дооценка и постановка на учет на сумму более 2,5 млрд. рублей), эксплуатации зданий и содержании закрепленной территории, выплате заработной платы, эксплуатации автотранспорта, представлении статистической отчетности и иные. За допущенные нарушения лицей и 2 должностных лица привлечены к административной ответственности, в отношении 8 – готовятся к возбуждению административные процессы.

***Юлиана Шуплецова, mogilevnews.by***

## ИЗ СВОДКИ УВД

20 марта Следственным комитетом возбуждено уголовное д ело по ст. 186 УК (Угроза убийством) в отношении неработающего, ранее судимого жителя д. М. Кудин, 1961 г.р., который 5 марта, находясь в состоянии алкогольного опьянения, по месту жительства угрожал убийством топором сыну, 1987 г.р. Раскрыто УИМ.

24 марта в д. Старое Село ОУР в ходе осмотра жилища неработающего, 1972 г.р., обнаружено и изъято 120 л. самогонной браги.

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ЗРИ В КОРЕНЬ, ГУБЕРНАТОР

***Падение экономики Могилевской области продолжается. По итогам работы за 2014 год валовой региональный продукт составил 97,5% к показателю предыдущего года – это худший результат в стране. Фактически с начала пятилетки экономика области не сдвинулась с места - валовой региональный продукт при прогнозе роста на 47% «вырос» только на 3,8%.***




Закономерно плохо сработал промышленный сектор экономики области - 98,1% к уровню 2013 г., а с начала пятилетки индекс роста производства промышленной продукции в 10 раз ниже среднереспубликанского показателя. Стратегические ошибки республиканского и местного руководства в определении развития промышленных предприятий, ставка на госсобственность, ориентирование на российский рынок сбыта, непродуманная ценовая политика привели к тому, что в 2014 г. промышленностью области недополучено продукции на 2,8 трлн. рублей. Наибольшее снижение отмечается на Могилевском вагоностроительном заводе, Бобруйскагромаше, Бобруйском заводе тракторных деталей и агрегатов, Могилевском металлургическом заводе, Электродвигателе. При этом запасы готовой продукции на предприятиях области возросли на 10% и на начало 2015 г. составили 3,4 трлн. рублей – 79% от среднемесячного объема производства.

Антирекорд же темпов роста установлен строительной отраслью области - лишь 81,9% к уровню 2013 г. Весьма тревожная тенденция - в области с начала пятилетки введено жилья только 44,6% к плану.

Провалено задание по росту зарплаты – оно выполнено на 97,2%, хотя зарплата в Могилевской области и так самая малая в Беларуси. Более того, в десятке районов страны с самой низкой зарплатой шесть из нашей области. Проблемы в области даже не с ростом зарплаты, а с ее выплатой: стеклозавод «Елизово», ОАО «Фандок», «Трансмаш», завод им. Кирова, «Строммаш» - вот небольшой перечень проблемных предприятий. Но откуда быть высокой зарплате, если в 2014 г. чистая прибыль организаций области составила 30% чистой прибыли, полученной в 2013 г. – за год она снизилась до 530 млрд. руб. с 1.8 трлн. руб. И это на фоне роста чистой прибыли по стране на 14,5%! Из 99 убыточных организаций области (11,4% от всех субъектов хозяйствования) 25% - промышленные предприятия, которые и в настоящее время испытывают существенные проблемы с реализацией продукции. К слову, по итогам работы за январь 2015 г. количество убыточных организаций в области возросло до 211, что почти в два раза больше, чем в январе 2014 года, а их доля составила 24,9% от всего количество организаций. При этом сумма чистого убытка убыточных организаций региона за январь 2015 года возросла до 5,8 трлн рублей, что в 25,3 раза больше, чем за январь предыдущего года.

В списке негатива Могилевской области: последнее место в Беларуси в рейтинге развития торговли, общественного питания и бытового обслуживания населения; ситуация в агропромышленном секторе экономики; наиболее высокий уровень заболеваемости населения туберкулезом в стране (!). Торговля за январь-февраль 2015 года «умудрилась» уйти в «минус» на 0,7%, а транспорт и связь сработали только на 93,5% к соответствующему периоду предыдущего года, энергетики – на 89,8%, продолжает ухудшаться ситуация в промышленности – 94% от уровня прошлого года. И если учесть, что в 2014 году уровень производства в промышленности снизился к показателям работы первых двух месяцев 2013 г. на 6,7%, можно говорить о катастрофе на ведущих предприятиях области. В подтверждение этому – по итогам работы за 2 месяца 2015 г. убыточными являются уже 47% промышленных предприятий Могилевской области.

В целом за январь-февраль 2015 г. инвестиции в экономику области выросли на 21,3%, валовой региональный продукт Могилевской области - на 0,2%, а себестоимость реализованной продукции в области выросла на 8,3%. Это уже не падение – это затянувшееся пике в финансовую пропасть от бездарного руководства экономикой региона. О чем говорить, если лидерами по налоговым платежам являются производители алкогольной продукции, а ОАО «Белшина» в этом списке лишь на 9 месте. О «Могилевхимволокно», ранее валообразующем предприятии, сегодня вспоминают лишь в плане критики.

И что случилось в 2015 г. с Могилевской областью? Ах, да, губернатора поменяли - вместо «промышленника» у руля области стал кадровый управленец, попробовавший райисполкомовского «хлеба», что изначально предполагает более солидный уровень управления. Уважаемый Владимир Викторович сразу озаботился двумя составляющими губернаторского кресла – как его встречают на местах и что бы такого положительного найти в работе субъектов хозяйствования области. Встречали, скажем прямо, на фоне безобразной работы кадров, не очень – снег на дорожке, куда намеревалась ступить нога председателя облисполкома, не

*(Продолжение на стр. 5)*

# ЗРИ В КОРЕНЬ, ГУБЕРНАТОР

*(Продолж. Начало на стр. 4)*

расчищен, хлеб-соль не предлагали, публика весьма прохладно реагировала на прожекты нового руководителя. С этой ситуацией губернатор разобрался довольно решительно – три местных руководителя уже ищут работу в местах иных. Да и с процедурой посещения высоким чином районов налаживается – дорога на Мстиславль, например, пусть и варварским образом, но приводится в «порядок». Иначе как охарактеризовать ситуацию, когда при пустом районном «кошельке» уничтожением «болотянок» вдоль трассы Чаусы-Мстиславль занимается сразу 6 пар «бульдозер-экскаватор». Ни эстетического, ни экономического смысла работы не имеют – таких «болотянок» автор по трассе насчитал более 200, на ликвидацию которых и областного бюджета не хватит. Об отдаче от производимых работ нет смысла даже рассуждать, а вот для экологов убытки от действа местной власти очевидны.

Та же самая ситуация и по трассе Кричев-Чериков, когда для встречи губернатора по указанию местных чиновников вырублена защитная лесополоса около д. Сокольничи, защищавшая местных жителей от северных ветров, шума и пыли.

Не из этой ли «оперы» попытки уничтожения огородов местных жителей д. Овсянка Горецкого района – ведь на «Дожинки» может приехать «сам» губернатор! Никчемность действий местной власти указывает на никчемность самой власти! А может новому губернатору остановить вакханалию издевательства над природой, экономикой и людьми?

Весьма доброжелательно губернатор отозвался от инвестиционных перспективах области. Но если взять даже г. Могилев, мы видим не совсем радостную картину – на начало 2015 г. в нем действует 51 инвестиционный договор на общую сумму более 2,8 трлн. рублей, из которых 32 с объемом инвестиций более 2 трлн. руб. реализуются с опозданием обозначенных сроков, а по 14 договорам приняты решения по их расторжению. А что тогда делается в районах?

Но что интересно, губернатор изначально настроился на положительную оценку работы агропромышленного




комплекса области. Может, оно и правильно делается, особенно на фоне роста сельскохозяйственного производства в 2014 г. на 2,8%. Но есть критерии иного порядка: фактически 60% сельхозорганизаций убыточны, кредиторская задолженность хозяйств превышает дебиторскую в 6,9 раза (фактически АПК области банкрот), проблемы с производством и реализацией мясной продукцией и яиц. Полмиллиарда долларов инвестиций в сельское хозяйство области в 2014 г. достойно более высоких результатов хотя бы в хозяйственной деятельности. Что, например, контролировал КГК и чем таким эпохальным занимались специалисты облсельхозпрода, что упустили из внимания вопиющий факт безответственности - на 52 новых молочных фермах в 2014 году так и не подключили компьютерное управление стадом. Чем объяснить падение объемов производства в Быховском районе или надой на корову в 700 кг в ОАО «Краснопольский»? Не лучше ситуация и в племзаводе (!) «Тимоново» Климовичского района и в СП «Малятичи» СПК «Бель» Кричевского района.

В области не продумана система производства животноводческой продукции. Вновь построенные фермы не комплектуются высокопродуктивным скотом, впрочем, даже места для откорма скота не во всех хозяйствах области заполнены. Сейчас производственники озабочены отсутствием возможности организации прогулок скота из-за скученности производственных помещений, а проектанты куда смотрели? А сонм консультантов? И почему за последнее время доля концентратов в рационе молочного скота достигла 40%, увеличившись на 10%? Здесь и проблемы с зерном, с себестоимостью, хотя с успехом дорогостоящие концентраты можно заменить травянистыми кормами. Погоня за нагрузкой привела к тому, что у коровы нет хозяйки – попробуй в доильном зале определи состояние здоровья коровы. А ведь на восстановление стада идет до трети всех затрат животноводства. И не потому ли из-за таких высокоинтенсивных технологий бегут специалисты?

Можно, конечно, виноватых поискать в низовом уровне управления - в сельском хозяйстве области недостает 469 специалистов с высшим образованием. А можно задать соответствующий вопрос председателям райисполкомов, - почему из области уезжают молодые специалисты? Не потому ли, что на местах тасуется колода недобросовестных управленцев? Тут никакие инвестиции не помогут. Не пора ли ответить за контрпродуктивную работу представителю Президента в области г. Лавренкову? Не с его ли подачи кадровый состав управленцев в области кардинально не обновляется, деградирует, в органы власти попадают судимые уже этой властью люди?

Мы пока глубоко не обсуждаем коррупционные шалости местных чиновников! А запроси новый губернатор дела по «скотскому» и «калийному» делам в Шклове, поинтересуйся

*(Окончание на стр. 6)*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# АДКУЛЬ ГЭТАЕ ЛІХАЛЕЦЦЕ НА ШКЛОЎ ?

***24 лютага 2015 года на базе Шклоўскага раёна адбыўся выязны семінар-вучоба старшынь раённых выканаўчых камітэтаў, асоб, уключаных у рэзерв кадраў на замяшчэнне пасад старшынь райвыканкамаў, кіраўнікоў сельскагаспадарчых арганізацый Мінскай вобласці. Гасцей з Міншчыны старшыня Шклоўскага райвыканкаму А.Бойка сустракаў з караваем ажно на мяжы Магілёўскага і Шклоўскага раёнаў.***




Удзельнікі семінару наведалі шэраг аб'ектаў раёна. Такіх, як фермерская гаспадарка "Дыяна", завод газетнай паперы, ААТ "Магілёўаблхлеб", ААТ "Александрыйскае", ЗАТ "АСБ-Агра Гарадзец".

Наколькі карысным для гасцей Шклоўшчыны было наведванне дадзеных прадпрыемстваў, могуць адказаць толькі самі ўдзельнікі семінару. Але ж у кулуарах, па вяртанні да дому, сярод іх прагучалі словы непаразумення, што для іх не была арганізавана экскурсія па г. Шклову, які мае такую вялікую гісторыю, не адбылося наведванне аб'ектаў сацыяльнай інфраструктуры.

У мінулыя гады, для ўсіх гасцей горада і раёна па традыцыі, абавязкова ладзіліся экскурсіі па горадзе, дзе паказваліся разнастайныя гістарычныя аб'екты, а прадстаўнікі шклоўскай вертыкалі заўсёды не абміналі магчымасць павыхваляцца перад разнастайнымі гасцямі дзеючымі і будуемымі сацыяльнымі аб'ектамі, добраўпарадкаванасцю і чысцінёй вуліц…

Што ж такое здарылася ў Шклове, што раённыя ўлады адмовіліся ад такой традыцыі?

Ды ўсё вельмі проста. За апошні час у плане добраўпарадкаванасці ў параўнанні з іншымі гарадамі краіны Шклоў здаў свае "лідзіруючыя" пазіцыі і знешне стаў выглядаць горш, чым іншыя раённыя цэнтры, якія нават ніколі не рыхтаваліся ні да рэспубліканскага свята "Дажынкі", ні да "Дня пісьменства".

Нават на вуліцы вакол шклоўскай гімназіі, дзе размешчаны галоўны гістарычны аб'ект горада -"Ратуша", чынавенству стала сорамна весці гасцей. Падобным чынам выглядае і тэрыторыя каля раённага дома культуры.

А што ўжо казаць пра лазню ці гарадскі басейн, дзе на галаву любога наведвальніка са сценаў будынка, у аконных праёмах якога гадамі растуць дрэвы, можа зваліцца кавалак, альбо і цэлая цагліна.

Не пахвалішся і будуемым лядовым палацам. Бо гэты аб'ект павінен быў здадзены ў эксплуатацыю яшчэ тры гады таму назад. І за гады "замарожвання", будаўнічая пляцоўкаператварылася ў палігон для цвёрдых бытавых адыходаў.

Нават некаторыя аб'екты добраўпарадкавання горада, што былі пабудаваны або рэканструяваны ў час падрыхтоўкі да "Дажынак" праз безалабернасць раённага чынавенства ператварыліся ў пастаянна-дзеючыя будаўнічыя пляцоўкі. А ад той прыгажосці аб'ектаў, калі яны здаваліся ў эксплуатацыю, засталіся толькі ўспаміны.

Да прыкладу, варта звярнуць увагу на тэрыторыю пляцовак уздоўж вуліцы Пралетарскай на перакрыжаванні з Ганчарнай пры ўездзе ў цэнтральную частку горада ад дняпроўскага маста.

Што толькі не тварылі тут будаўнікі па распараджэннях розных старшынь райвыканкама. Кожны старшыня імкнуўся пакінуць у гэтым месцы, як памяць для гараджан аб часах сваёй працы ў Шклове, за кошт раённага

*(Заканчэнне на стар. 7)*

# ЗРИ В КОРЕНЬ, ГУБЕРНАТОР

*(Оконч. Начало на стр. 4, 5)*

ситуацией на Могилевском мясокомбинате, проанализируй угробляющую экономику области деятельность «Бабушкиной крынки» и на многие источники проблем у губернатора откроются глаза. Если хватит ума и решимости.

Выходом из тупика в сельском хозяйстве уважаемый г. Доманевский видит в дальнейшем совершенствовании экономического механизма в агропромышленном комплексе. В том числе и в совершенствовании структуры экономики области в части увеличения сектора предпринимательства. Что ж, губернатор прав. Давайте сравним показатели работы фермерского хозяйства «Диана» Шкловского района и хозяйств республиканской и коммунальной собственности. Рентабельность в фермерском хозяйстве 90% (в тридцать раз выше), выработка на 1 работающего 1 млрд. руб. – в три раза выше, чем у самых эффективных «колхозов». Какое из хозяйств может состязаться в эффективности хозяйствования с частной формой собственности на земле? Возьмем личные подсобные хозяйства (ЛПХ), успешно придавленные чиновниками по всей стране - в отрасли растениеводства в Могилевской области ЛПХ в 6 раз эффективнее крупнотоварного производства, в животноводстве – в 1,1 раза. Вот и выход из положения – стратегическая ориентация на частную форму собственности. Сможет ли губернатор осознать и реализовать этот посыл времени, покажет будущее. А пока…

А пока в области идет посевная кампания. На ее начало обеспеченность горюче-смазочными материалами составляет только на 4 дня работы, минеральных удобрений заготовили 24,6% к потребности или в 2 раза меньше других областей. Удобрения, конечно, будут, но в прошлом году одно из хозяйств Осиповичского района весенний сев провело без применения туков.

На одном из областных совещаний чиновники подсказали губернатору выход из создавшегося положения - повышение эффективности деятельности. Что это такое, пожалуй, никто из авторов могилевского «чуда» в перспективе не знает, но явно этому «чуду» с нынешним уровнем управления в Могилевской области не по пути.

***Пётр Мигурский***

## АДКУЛЬ ГЭТАЕ ЛІХАЛЕЦЦЕ НА ШКЛОЎ ?

*(Заканч. Пачатак на стар. 6)*

бюджэту якісьці аб'ект. Аднаму захацелася пабудаваць фантан. Другому, на гэтым жа месцы, – "мельнічнае" кола. Трэцяму – салдата–грэнадзёра ў гонар вайны 1812 года. У выніку – патрачаны вялікія фінансавыя сродкі і ні адзін аб'ект не даведзены да ладу. А аб бязглуздым будаўніцтве да гэтай пары нагадваюць былыя раскопкі каля дамоў №3 і №4 па вул-.Пралетарскай, дзякуючы якім шклаўчане і ўспамінаюць, толькі нядобрым словам, гэтых чыноўнікаў, абмінаючы яміны на тратуарных дарожках.

І якую вуліцу Шклова не вазьмі, усюды можна пабачыць падобныя сляды ўмяшальніцтва шклоўскага чынавенства ў добраўпарадкаванне гарадскіх тэрыторый, калі яны прымаюць рашэнні, або даюць дазвол на разнастайныя раскопкі і будаўніцтва, не выконваючы і не патрабуючы своечасовага і якаснага завяршэння гэтых работ. Такім чынам знішчаецца прыгажосць, марнуюцца фінансы, ўкладзеныя ў падрыхтоўку горада да святаў.

Падобнага варварства немагчыма пабачыць ні ў адным іншым раённым цэнтры Магілёўшчыны. І ў той жа час ні ў адным раёне Беларусі не назіраецца такога крыміналітэту сярод чынавенства райвыканкама, як у Шклове, дзе за апошнія чатыры гады ўзбуджаны крымінальныя справы ажно па чатырох прадстаўніках кіраўніцтва, і на гарызонце ўжо прагладаюцца яшчэ новыя.

Чамусці не жадаюць заўважаць разгула карупцыі і марнатраўства сярод чынавенства на Шклоўшчыне ні прадстаўнік прэзідэнта Г. М. Лаўранкоў, ні кіраўніцтва вобласці, ні адміністрацыя прэзідэнта, і на месца парушыўшых закон чыноўнікаў прызначаюцца новыя, з ужо раней "падмочанай" рэпутацыяй.

Адбываецца своеасаблівы кругаварот чынавенства па вертыкалі.

І на колькі хопіць трываласці Шклоўшчыне, каб перажыць гэтае ліхалецце?

***Рыгор Кастусёў***

# КАДРЫ РЕШАЮТ ВСЁ!

***В г. п. Круглое Могилёвской области открыли новый магазин. Большой, светлый! С музыкой на входе и красивой рекламой «ЕВРООПТ». На этом сходство с магазинами в западной Европе и заканчиваются. Ассортимент так себе, цены не ниже, чем в магазинах и ларьках Могилёвского облпотребсоюза и местных предпринимателей. В чём-то данный магазин даже проигрывает им.***




При первом посещении, увидев персонал магазина и узнав, кто является руководством данного предприятия, невольно закралась мысль: дамочки советского воспитания, зарекомендовавшие себя по работе в других объектах торговли тем, что руководимые ими коллективы постоянно платили недостачи, а в магазинах нередко мы сталкивались с откровенным обсчётом и обманом, неужели они так перевоспитались, что уже не будут «озабоченны» тем, как нас объегорить. Зря надеялись, потому что это уже проверено временем, что если в коллективе собрались два или три «предприимчивых» члена, то они обязательно вступят в сговор и найдут средство по очистке ваших кошельков.

Я не ошиблась. В один прекрасный февральский день меня обсчитали в магазине «Евроопт» на 441 100 рублей. Как говорится, «одним лёгким движением руки» сумма на чеке увеличилась на одну цифру. Спасло меня только то, что товара было мало, и я сразу обратила внимание на сумму. Завышение цены было на мясную продукцию. Так «Ковалочек» мясного деликатеса мог превратиться для меня в золотой. Сколько таких «кавалочков» было уже продано, выяснить не удалось, так как они исчезли с прилавка мгновенно после обнаружения обсчёта. Это потом я узнала от жителей, что такой фокус был уже проделан и с сыровяленой колбасой, и есть пострадавшие, которым «повезло» меньше, чем мне. Они обратили внимание на обсчёт только дома и по-старинке, «проверяйте деньги, не отходя от кассы», постеснялись обратиться в магазин с претензией. Как правильно выразилась заведующая, в магазине контроль над покупками осуществляет компьютер и имея на руках чек, покупатель может предъявить претензию не только в

*(Окончание на стр. 8)*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# КАДРЫ РЕШАЮТ ВСЁ!

*(Оконч. Начало на стр. 7)*

момент оплаты за товар, но и в течение двухнедельного срока обнаружения обмана. Ведь закон о защите прав потребителя никто не отменял. Тем более в Круглянском районе, хоть усилиями руководства района это общество у нас и задавили в зародыше, видимо посчитав, что круглянцы в защите не нуждаются. Как посчитали в нашем районном «доме правительства», толи продавцы у нас уже с коммунистическими взглядами и не способны на обман, толи покупатели не достойны защиты своих прав.

Почему в нашем районе открыли «Евроопт», в корне подкосив магазины облпотребсоюза и частных предпринимателей? Кому это было выгодно? Наверное, мы об этом не узнаем. Как не узнаем, почему было ликвидировано Круглянское районное общество потребсоюза, которое, если верить компетентным людям, было на втором месте по перечислению доходов в местный районный бюджет после ПМК-266. Его преобразовали в областное. Но деньги оставались хотя бы в области. Куда сейчас уходят эти деньги – мы не узнаем, но делая покупки в «Евроопте», мы спонсируем не свой район, не свою область, а неизвестно кого. Можно сказать, что покупателю всё равно, главное, чтобы был хороший товар и обслуживание. Не буду спорить! Но сомневаюсь в обслуживании, потому что за время строительства собственники магазина не потрудились подготовить персонал и по обслуживанию круглянский «Евроопт» ничем не отличается от советского «Гастронома». А уж про руководство я вообще молчу. С таким богатым «опытом» советской торговли, я не удивляюсь, что количество обманутых покупателей растёт в геометрической прогрессии: то схитрят «с акцией», то добавят «нолик» при взвешивании товара. То выстроят очередь при покупке мяса и рыбы или у кассы. А ведь проблему решил бы опытный менеджер с высшим образованием, если бы он стал в руководстве магазином. Но на нём «сэкономили». Ведь, открывая магазин, решали не проблемы покупателей, культуру обслуживания, а свои интересы.

Я встречаю всё больше людей, которые вернулись к покупкам в тех торговых точках, которым они больше доверяют. Где на контроле за честностью не бездушный компьютер, а совесть. А в «Евроопте» всё чаще можно увидеть редких покупателей, которых способна обслужить одна касса. Несмотря на хорошее качество товара, на красивую выкладку. Потому что честность при покупке – это тоже товар, который ценится куда более высоко, чем всё остальное. Посещая магазин, я не должна думать, на чём ещё меня могут «надуть» предприимчивые продавцы. Потому всё больше убеждаюсь в правильности советского лозунга о том, что кадры решают всё. Жаль, что руководство нового магазина под громким названием «Евроопт» об этом «забыло».

А за пережитое разочарование и моральную травму, нанесённую мне обсчётом и выяснением данного обстоятельства, руководство магазина даже не извинилось. Так что, видя красивые вывески на торговых точках, не обольщайтесь. Помните, кадры решают ВСЁ!

***Зинаида Милещенко***

## В ПОЛЬШЕ ИЗДАН РОМАН «ТЕМНЫЕ ТУННЕЛИ» БЫХОВЧАНИНА СЕРГЕЯ АНТОНОВА




**В Польше начала выходить книжная серия «Вселенная Метро 2033».**

Первым в серии издан роман «Темные туннели» быховчанина Сергея Антонова. Книга уже поступила в продажу в Польше.

В прошлом году для своих земляков в Быхове автор провел презентацию сразу шестнадцати своих романов, написанных в разные годы, в том числе и «Темные туннели».

Сейчас писатель работает над новым романом, действия которого происходят в 1941 году в Быхове.

## В ЧЕРИКОВЕ ЗАДЕРЖАЛИ ВЕТВРАЧА

**Задержан главный ветеринарный врач ВСУ «Чериковская районная ветеринарная станция».**

10 марта 2015 года прокуратурой Чериковского района в отношении главного ветеринарного врача ветеринарно-санитарного учреждения «Чериковская районная ветеринарная станция» возбуждено уголовное дело по подозрению в совершении коррупционного преступления. Подозреваемый задержан. Проводится предварительное расследование.

## В МОГИЛЕВЕ ПРОШЕЛ ВЕЧЕР ПАМЯТИ РЕЖИССЕРА ВАЛЕНТИНА ЕРМОЛОВИЧА

**Режиссеру Валентину Ермоловичу в 2015 году исполнилось бы 90 лет. В день его памяти народный театр «Валентин» собрал всех тех, кто знал этого талантливого человека.**

В Могилевском городском Центре культуры и досуга прошёл вечер памяти режиссера и актера Валетина Ермоловича. Одноименный театр «Валентин» показывал спектакль «КАМЕДЫЯ». В постановке приняли участие бывшие и нынешние актеры-любители самодеятельной труппы народного театра «Валентин». Многие из них работали вместе с Валентином Ивановичем.

Валентин Ермолович руководил Краснопольским народным театром, был режиссером Белыничского народного театра юного зрителя, а с 1992 года возглавил народный театр "Валентин" Могилевского городского Центра культуры и досуга. Этот коллектив до сих пор радует зрителя своими постановками. В 2004 году Валентин Ермолович ушел из жизни. В нынешнем году ему могло бы исполниться 90 лет. В день памяти театр «Валентин» собрал всех тех, кто знал знаменитого режиссера.

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем выдаўца газеты.

Адрас рэдакцыі: 213173, Бялыніцкі раён, аг-к Вялікая Машчаніца, вул. Савецкая, д. 4. Тэл. 8 (02232) 37-365. E-mail: boris196608@bk.ru. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Наклад 299 асобнікаў. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 02.04. 2015 г. у 09-00.